# ПАГОНЯ

Чацвер
6 траўня 1999 г.
№ 32 (409)
Кошт 20.000 руб.


## «Інтэграсты» збяруцца 12-га

**12 траўня ў Гродне пройдзе 12-я сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі (ПС СБР).**

Як паведамілі у прадстаўніцтве СБР у Менску, парламенцкія дэлегацыі прыбудуць у Гродна напярэдадні —дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі 10-га вечарам, а Федэральнага сходу Расіі — раніцай 11 траўня. У гэты ж дзень парламентарыі правядуць слуханні на тэму «Аб аб'яднанні Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву», а таксама наведаюць некаторыя прамысловыя прадпрыемствы Гарадзенскай вобласці. Вечарам 11 траўня для Парламенцкага сходу СБР адбудзецца канцэрт майстроў мастацтваў і самадзейных калектываў вобласці і прыём ад імя Гарадзенскага аблвыканкама.

Асноўныя мерапрыемствы запланаваныя на 12 траўня. У гэты дзень парламентарыі правядуць тры пленарныя пасяджэнні. З унесеных у парадак дня 12-й сесіі 18 пытанняў варта вылучыць два: аб звароце Саюзнай Скупшчыны Югаславіі аб далучэнні да беларуска-расійскага саюзу (для гэтага ў Гродна прыбудзе дэлегацыя Саюзнай Скупшчыны) і аб праекце дамовы па аб'яднанні Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву. Чакаецца, што па апошнім пытанні перад Парламенцкім сходам выступіць старшыня Вышэйшага Савета СБР, прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Падчас 12-й сесіі Парламенцкаму сходу СБР таксама трэба будзе разгледзець шэраг кадравых пытанняў, у тым ліку аб абранні старшыні ПС СБР і яго намеснікаў і разгледзець шэраг саюзных нарматыўна-прававых актаў. Сярод іх — «Аб інвестыцыйнай дзейнасці», «Аб ліцэнзаванні», «Аб абароне эканамічнай канкурэнцыі». Унесена ў парадак дня сесіі і пытанне аб стварэнні друкаванага органа Саюза Беларусі і Расіі. Такім чынам, парламентарыі клапоцяцца аб інфармацыйнай падтрымцы саюза, аб неабходнасці якой на студзеньскай сесіі ў Менску заявіў спікер Дзярждумы Расіі Генадзь Селязнёў.

Нагадаем, што больш як год таму кіраўніцтвам Беларусі і Расіі было прынята рашэнне аб стварэнні сумеснай тэлерадыёкампаніі. Аднак гэтае рашэнне дагэтуль застаецца толькі на паперы, нягледзячы на тое, што дакумент падпісаны прэзідэнтамі і ратыфікаваны парламентамі абедзвюх краін.

**Юрый Пацёмкін**

## Ніякіх масавых акцыяў!

**Гарадзенская гарадская рада БНФ «Адраджэнне», Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная Грамада» ў адведзеныя законам тэрміны супольна даслалі ў гарвыканкам заяву на дазвол правесці мітынг пратэсту каля палаца тэкстыльшчыкаў. Нагода - маючае адбыцца падпісанне чарговай саюзнай дамовы парламенцкай асамблеяй Беларусі і Расіі.**

Як паведаміў старшыня гарадской рады Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» Сяргей Мальчык, гарадскі выканаўчы камітэт адмовіў заяўляльнікам у іх канстытуцыйным праве. Тэрмінова было прынята рашэнне аб забароне ўсяляікх масавых мерапрыемстваў у гэтыя дні, акрамя вызначаных «вертыкаллю». Трэба адзначыць, што гэтыя рашэнні гарвыканкам прыняў з парушэннямі закону. Напрыклад, копію прынятага рашэння заяўнікі ў вызначаны тэрмін на рукі не атрымалі.

Сваімі дзеяннямі вертыкаль, па сутнасці, штурхае незадаволеных так званай інтэграцыяй па-за межы прававога поля, правакуе несанкцыянаваныя акцыі пратэсту... Людзям зноў яскрава паказалі, што лёс мільёнаў вырашаецца без іх удзелу.

Пад узмоцненай аховай соцень міліцыянтаў уладны плануюць падпісаць паперы пра фактычнае паглынанне Беларусі Расіяй.

Што ж беларусы атрымаюць на практыцы?

**Антон Лабовіч**

### НАДВОР'Е

**6 і 7 траўня** - сонечна, месцамі - дажджы. Вецер паўночна-ўсходні, 3-8 м/с. Тэмпература паветра ўначы -2...+2, удзень +8...+10.

# Гісторыя фінансавання без будавання

- Мы стаялі ў чарзе на атрыманне жылля па 15-20 гадоў. Шмат хто жыве ў інтэрнатах, мае дарослых дзяцей. Мы спадзяваліся, што нарэшце ў нас будзе свая кватэра, свой кут - спадзяванні сёння ператварыліся ў нішто, - кажа жыхар горада Гродна Аляксандр Казлоў.

- Разам са спадзяваннямі ў нішто ператвараюцца нашыя грошы, сабраныя для пачатку будаўніцтва шматкватэрнага дома, - дадае Віктар Кіркіцкі. - Мы, сябры жыллёва-будаўнічага кааператыва N179, пачалі шукаць таго, хто ў нашым горадзе зможа даць адказ, чаму мы грошы на будаўніцтва пералічылі, але будаўніцтва дома нават не пачыналася. Адказных за гэта не знайшлі. Можа, нашы грошы дзесьці «круцяцца»?

- Мы, сябры ЖБК-179, абураныя да апошняй ступені: ці нам галадаваць, ці выходзіць з транспарантамі, ці рабіць нешта яшчэ не менш гучнае, каб нас нарэшце пачулі, - усхвалявана гаворыць Іван Цыбрук.

Удзельнікі ЖБК-179 гатовыя на любыя меры, якія дапамогуць дамагчыся адказу на іх законныя пытанні. Яны пакуль што не мітынгуюць, хаця надзвычай блізкія да гэтага. Яны пакуль што пішуць. Днямі агульны сход кааператыва зацвердзіў тэкст ліста на імя намесніка старшыні аблвыканкама В.Чорнага, старшыні дзяржкантролю М.Праташчык, мэра Гродна А.Пашкевіча, гендырэктара аб'яднання «Гроднажылбуд» В.Глухава. У лісце пададзена гісторыя іх блукання па пакутах. Сутнасць праблемы надзвычай простая, калі мець на ўвазе наш час, адзначаны шалёнай інфляцыяй.

Сябрамі ЖБК-179 былі сабраныя ўнёскі і пералічаны 27 лістапада мінулага года на рахунак аб'яднання «Гроднажылбуд» два мільярды рублёў. Пасля чаго кааператыў стаў чакаць пачатку будаўніцтва. Але яно ўсё не пачыналася. Грошы тым часам абясцэньваліся - самі ведаеце, на колькі працэнтаў у месяц. Тады людзі пачалі абіваць парогі ўсяляікх-розных установаў, бо палічылі, «што пачатак будаўніцтва» наўмысна зацягваецца падрадчыкам у асобе аб'яднання «Гроднажылбуд», як сказана ў згаданым лісце. Аднак, як мы ўжо ведаем са словаў спадара Кіркіцкага, знайсці адказ на свае пытанні не здолелі. Сябры ЖБК-179 вырашылі, што, на іхні погляд, «органы кіравання вобласці і горада не прымаюць адпаведных мераў кантролю за будаўніцтвам, якое ўзялі на сябе фірма «Гроднажылбуд» і ўпраўленне капітальнага будаўніцтва горада.

- У мяне бракуе словаў: грошы ўзялі, а будаўніцтва няма, - кажа Юрый Якубовіч.

- Самі «яны» жывуць у катэджах, па інтэрнатах не блукаюць, на дваццаці метрах учатырох не душацца, - працягвае Аляксандр Казлоў, -а ў дадатак нас усіх знялі з чаргі - мы ўжо не ёсць асобы, якія патрабуюць паляпшэння жыллёвых умоваў. Ды яшчэ трэба плаціць падатак за адведзеную пад будаўніцтва зямлю - мо нам, з дазволу гарадскіх уладаў, засадзіць яе бульбай?

- Большасць з сяброў кааператыва, а гэта 60 сем'яў, здалі першыя ўнёскі з апошніх грошай, шмат хто пазычаў. Мы аказаліся ў пройгрышы, і маем намер дакладна даведацца, хто нас «кінуў». Быць бездакорнымі напаўняльнікамі нечыіх скарбніц не збіраемся, - гаворыць Віктар Кіркіцкі.

У планах ЖБК-179 - зварот да прэзідэнта і Савета міністраў, на тэлебачанне, у органы суда і пракуратуры, арганізацыя пікетаў і нададзенне справе максімальнага розгаласу. Пакуль што застаецца невялікая надзея на мясцовыя ўлады, хаця, не хочацца крыўдзіць «адказных таварышаў». ПАГОНІ апошнім часам неадночы даводзілася сутыкацца з рознымі калізіямі, звязанымі з жыллёвым будаўніцтвам у Гродне, так што выснова напрошваецца сама - нешта ў гэтай справе не зладзілася. Ці знойдуць адказ на свае пытанні сябры ЖБК-179, а разам з імі чытачы, звязаныя (і не звязаныя) з праблемамі жыллёвага будавання ў горадзе? Пабачым.



Абяцанага дома тры гады чакаць?..

**Сяргей Самасей**

# Калі рукапісы не гараць - іх перадрукоўваюць

**У мінулы чацвер сябры Таварыства Вольных Літаратараў правялі вечарыну памяці паэта Андрэя Пяткевіча.**

У гэты дзень споўнілася чатыры гады са дня яго смерці. Але, як вядома, добрыя вершы не паміраюць, і рукапісы не гараць. Нягледзячы на тое, што паэт не пражыў на гэтым свеце і трыццаці гадоў і што ягоная творчая спадчына зусім не багатая, сябры і прыхільнікі творчасці паэта сабраліся на вечарыну памяці.

Па ўсіх правілах, мерапрыемства, прымеркаванае да гадавіны смерці, павінна быць жалобным. Аднак у выпадку з Андрэем Пяткевічам атрымалася зусім не так. Безумоўна, былі кветкі, была запалена знічка памяці. Але вечарына прайшла ў настроі, сумясціўшым жаль пра заўчасную смерць і ціхую радасць ад гучання вершаў, сяброўскіх успамінаў, цудоўнай музыкі. Сам паэт некалі пісаў:

Не трэба ніякіх слёз,
Калі паміраюць геній...

Наконт сваёй геніяльнасці Андрэй Пяткевіч ніколі не сумняваўся. І ў жыцці паводзіў сябе, як належыць арыгіналу. Не, ён не насіў шляпы,і не хадзіў у жоўтых чаравіках, не дэкламаваў вершы з плошчаў і не ўчыняў іншых эпатажных шоу на публіку. Наадварот, па ўспамінах сяброў, ён быў прадаўжальнікам ідэі кінікаў. Калі Дыяген жыў у бочцы, дык Андрэй называў сваёй бочкай калгас на Навагрудчыне, дзе нарадзіўся. Заўсёды апрануты ў адзін і той жа світар. Быў непераборлівы. Меў мару - купіць хутар і перарабіць яго ў своеасаблівы манастыр, дзе жыў бы па сваіх правілах.

Паэт Андрэй Брусевіч прыгадаў забаўныя факты з жыцця Андрэя Пяткевіча: «цімураўскі рэкет» у абарону агародаў нямоглых пенсіянерак ад аматараў чужой гародніны, захапленні йогай і саматробны нунчакі. Так, ён жыў не як усе, ён быў самай натуральнай белай варонай. Рабіў тое, што падказвала сэрца, а не халодны розум. Пісаў адкрытыя лісты ў абарону беларускай мовы, оду тады яшчэ невядомаму акадэміку Сахараву. Яго выключалі з універсітэта, палілі ягоныя вершы, выклікалі ў КГБ.

Аднак пры ўсім пры гэтым, Юрась Пацюпа лічыць, што Андрэй Пяткевіч «жыў, як паэт. Але ён такім не быў, як паводзіў. Гэта была маска, ад якой стала ўжо цяжка пазбавіцца».

Ён памёр маладым, як многія паэты. Як сказаў рускі класік, увесь бруд і боль свету праходзіць праз расколіну на сэрцы паэта. У Андрэя Пяткевіча было хворае сэрца. Але не толькі гэта стала прычынай ранняй смерці. На вечарыне мы яшчэ раз спазналі, якое яно было, сэрца паэта, што заўсёды баліць за зямлю, у якой «ніколі не было, няма і не будзе прарокау». Яно было лірычным, сумным, з'едлівым, вясёлым. Але ніколі не было абыякавым.

Калі памірае пусты чалавек - пра яго забываюцца. Амаль адразу. Андрэя Пяткевіча памятаюць і любяць яго сябры. Яны вырашылі здзейсніць невыказаную мару паэта - выдаць першы зборнік яго вершаў. Хто ведае, колькі цудоўных твораў мы згубілі з-за таго, што іх аўтары не гнаіліся за прыжыццёвай славай. Вершы Андрэя Пяткевіча рыхтуюцца атрымаць другое жыццё, перайшоўшы з зашмальцаваных сшыткавых лісткоў на друкаваныя старонкі.

**Алена Сіневіч**

## Ад лапаў Феміды не схаваешся!

**Учора раніцай быў арыштаваны і пачаў «адбываць» свае 13 сутак лідар прафсаюза прадпрымальнікаў рынка «Паўднёвы» Валерый Леванеўскі.**

У пазамінулым нумары «Пагоня» паведаміла, што спадар Леванеўскі ўжо сядзіць. Аднак інфармацыя аказалася недакладнай: паўтары тыдні Валерый Леванеўскі хаваўся ад лапаў беларускай Феміды.Аднак учора раніцай яго бачылі у суправаджэнні двух міліцыянтаў.

Нагадаем, што прысуд быў вынесены 26 красавіка за адміністратыўнае правапарушэнне. Так была кваліфікавана спроба прадпрымальнікаў на чале з Леванеўскім вырашыць з намеснікам старшыні гарвыканкама В.Лаўцаль пытанне афармлення сертыфікатаў на рэалізуемыя тавары.

**Ул. інф.**

## Рынкі сустракаюць пустымі прылаўкамі

**З першага траўня ў Гродне бастуюць прадпрымальнікі.Акцыя пратэсту накіравана супраць завышаных ставак падаткаў і незразумелых патрабаванняў уладаў аб сертыфікацыі тавараў. Калі да дзевяці гадзін раніцы шостага траўня пытанне з уладамі аб сертыфікацыі тавараў і фіксаванай стаўцы падатку не будзе вырашана станоўча, рынкі будуць пуставаць яшчэ месяц.**

Вырашыць пытанне мірным шляхам не ўдалося - адміністрацыя горада ў асобе намесніцы старшыні гарвыканкама В.А.Лаўцаль не пайшла на дыялог з прадпрымальнікамі.

Калі ўлічыць тое, што рынкі горада сталі для гараджан адзіным месцам, дзе можна было танней купіць адзенне, абутак і прадукты, можна сцвярджаць, што цяпер усе мы апынуліся ў вельмі невыгаднай сітуацыі.

У сераду на скідальскім рынку карэспандэнту ПАГОНІ ўдалося адшукаць аднаго гандляра акулярамі. Ён не прыняў удзел у забастоўцы таму, што, паводле ягоных словаў, яму сертыфікаты не патрэбныя. На думку нямногіх «індывідуалістаў», якія ўсё ж такі выйшлі гандляваць, сёння ў 9 гадзін раніцы павінна вырашыцца, ці працягнецца забастоўка яшчэ на месяц.

Калі ўлады не задаваляць патрабаванні прафсаюза прадпрымальнікаў, то ў першую чаргу прайграе той, хто за ўсё плаціць - гэта значыць, пакупнікі - мы з вамі.

**Алеся Макавецкая**

## «Октябрята» махлююць

**Следчым аддзелам Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі па Гарадзенскай вобласці распачата крымінальная справа па частцы першай артыкула 90 Крымінальнага кодэкса рэспублікі (крадзеж маёмасці шляхам махлярства) у дачыненні пяцёх супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС горада Гродна.**

Як паведамілі у Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КГБ Беларусі, злоўжываючы службовым становішчам, яны сістэматычна вымагалі ў іншаземцаў, якія часова жылі ў абласным цэнтры, розныя сумы грошай, быццам бы ў выглядзе штрафу за парушэнне рэжыму пражывання, пры гэтым прысвойвалі частку канфіскоўваемых сродкаў. Адзін з удзельнікаў гэтай групы быў затрыманы на тэрыторыі рэчавага рынку «Паўднёвы» з доказамі злачынства пры вымагальніцтве ў грамадзяніна В'етнама 4 мільёнаў рублёў, і потым арыштаваны.

**Алег Сакалоў**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Імперыялізм - апошняя стадыя камунізму?

**У свой час рускі імперыялізм змяніўся на савецкі сацыялізм - Расійская імперыя пераўтварылася ў Савецкі Саюз. Як сцвярджалі Ленін ды Сталін, сацыялізм быў толькі першай стадыяй камунізму, другой мусіў быць уласна камунізм, у якім «всё польётся, как из рога изобилия» ды кожнаму будзе «по потребностям». Хрушчоў абяцаў, што «нынешнее поколенье будет жить при коммунизме», але насамрэч Расійская Федэрацыя зноў ператварылася ў імперыю і ўсімі сіламі спрабуе зацягнуць да сябе Беларусь. Пры гэтым робіцца выгляд, што беларусы самі пнуцца да такога шчасця. Асабліва ў гэтым шчыруюць «праваслаўныя атэісты» розных афарбовак, ад чырвоных да карычневых. У бліжэйшыя год, ці нават месяцы скончыцца «царствование» Ельцына і да ўлады ў Федэрацыі відавочна прыдуць імперыялісты ў «чыстым выглядзе» кшталту Лужкова альбо Лукашэнкі, іншых там проста няма.**

Ці будзе гісторыя Еўразійскай дзяржавы круціцца па колу, ці імперыялізм сапраўды стане апошнімі дрыжыкамі камунізму? Ці дамо мы канчаткова ўцягнуць сваю Бацькаўшчыну ў гэты «калазварот дзярма ў прыродзе»?

Мэта імперскай палітыкі Федэрацыі - падтрымка і стварэнне (там дзе іх няма) дыктатарскіх рэжымаў у «блізкім замежжы». У якасці платы за падтрымку дыктатары будуць забяспечваць інтарэсы Масквы на сваёй тэрыторыі. Мэта Масквы - разбурэнне дэмакратыі ў суседніх краінах. Тым самым яна «дакажа» Захаду, што без Масквы ён нічога не можа зрабіць на постсавецкай прасторы. Гэткім чынам Масква прымусіць Захад лічыцца з сабой і падтрымліваць «дэмакратызацыю» Федэрацыі крэдытамі ды іншай дапамогай. Галоўным інструментам стварэння прамаскоўскіх дыктатур ёсць савецкае КГБ і пятая калона. Калі ж дыктатар будзе не прамаскоўскі, а будзе весці сваю палітыку, тады Масква будзе крычаць аб «дэмакратыі» і Захад мусіць даваць ёй грошы, каб яна «змагалася» з дыктатурай. У самой Федэрацыі дэмакратыя будзе дазволена толькі ў межах вельмі вузкіх імперскіх інтарэсаў і геапалітычнага дамінавання.

Замахі на жыццё кіраўнікоў Грузіі і Узбекістана, смерць дэмакратычных лідараў Чарнавіла (Украіна) і Карпенкі (Беларусь), падтрымка Лукашэнкі - элементы вышэйзгаданай палітыкі Масквы.

Адэкватная палітыка дэмакратаў краін «блізкага замежжа» ў такіх умовах - далейшы развал Федэрацыі. Для гэтага трэба выкарыстоўваць адпаведную дыяспару ў Федэрацыі, аказваць ёй падтрымку і ўзмацняць кантакты - ствараць сваю пятую калону і нават аб'яднання пятых калон краін «блізкага замежжа». Неабходна таксама блакаваць дапамогу Федэрацыі з боку Захада.

Словы Кастуся Каліноўскага «...толькі тады зажывем шчасліва, калі маскаля над намі не будзе...» павінны стаць аксіёмай для ўсіх дэмакратаў краін «блізкага замежжа».

**Сяргей Дамброўскі**

# Другі раунд дэбатаў

**2 траўня ў вячэрнім эфіры беларускай службы «Радыё Свабода» прайшоў другі раунд дэбатаў кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і іх давераных асобаў. У іх узялі ўдзел кандыдат у прэзідэнты краіны, лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк, а таксама давераныя асобы іншага кандыдата, Міхаіла Чыгіра, — ягоная жонка Юлія Чыгір і намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Аляксей Кароль.**

На думку А.Караля, саюз Беларусі, Расіі і Югаславіі не мае перспектывы нават пры цяперашнім рэжыме, а тым больш у будучым, калі знешняя палітыка краіны будзе грунтавацца на развіцці адносінаў з заходнімі дзяржавамі і ўступленні ў Еўрасаюз. Тым не менш, на думку А.Караля, нявыгадна адмаўляцца ад сувязяў з Расіяй, «на якой пакуль замкнёная большая частка эканомікі».

Па меркаванні З.Пазьняка, цяперашнія саюзы дзяржаваў з'яўляюцца «прапагандысцкім фантомам імперскай палітыкі». «Пасля ліквідацыі дыктатуры будуць адменены ўсе валюнтарысцкія незаконныя міжнародныя опусы Лукашэнкі», — сказаў лідар БНФ. Беларусь будзе імкнуцца як мага хутчэй стаць членам NATO, бо гэта з'яўляецца гарантыяй бяспекі краіны. Адначасова З.Пазьняк лічыць, што Беларусі не трэба спяшацца з уступленнем у Еўрасаюз. «Трэба добра стаць на ўласныя ногі і ў эканамічным, і ў дзяржаўным плане... Мы можам стаць залежнымі ад выканання якіхсьці ўстановак. Мне больш падабаецца пазіцыя скандынаўскіх краін, якія не ўваходзяць у ЕС і добра жывуць», — заявіў З.Пазьняк.

Гаворачы аб зробленых у мінулым памылках, З.Пазьняк адзначыў, што з вышыні сённяшняга дня была занадтай падтрымка з яго боку некаторых падзей у Расіі, у прыватнасці, расстрэлу парламента ў 1993 годзе.

Паводле словаў Ю.Чыгір, яе муж шкадуе аб тым, што прыняў прапанову А.Лукашэнкі стаць прэм'ер-міністрам у 1994 годзе і не пайшоў у адстаўку пасля збівання дэпутатаў і рэферэндуму ў 1995 годзе.

Адказваючы на пытанне аб стаўленні кандыдатаў да магчымай перамогі на выбарах суперніка, З.Пазьняк заявіў: «Бог даў мне здольнасць усё ў палітыцы ўспрымаць спакойна і дзейнічаць нечакана». Ю.Чыгір лічыць, што яе муж нармальна ўспрыме перамогу лідара БНФ і не пойдзе ў апазіцыю, калі З.Пазьняк будзе дзейнічаць у адпаведнасці са сваёй праграмай.

**Дзмітрый Уласаў**

# «Чорная дзірка»

## З кнігі Збігнева Бжэзінскага «Wielka szachownica»

## («Вялікая шахматная гульня»)

**Заканчэнне. Пачатак у NN28-31.**

## Дылема адзінай магчымасці

Адзінай рэальнай геастратэгічнай канцэпцыяй для Расіі, якая можа забяспечыць ёй разумную ролю на міжнароднай арэне і максімальна павялічыць шанцы на трансфармацыю дзяржаўнага ладу і правядзенне грамадскіх рэформаў, застаецца Еўропа. І не проста Еўропа, а Еўропа атлантычная, якая абапіраецца на Еўрапейскі Саюз, што ўсё больш пашыраецца, і NATO. Гэтая Еўропа знаходзіцца на стадыі фармавання і застанецца, хутчэй за ўсё, цесна звязанай з Амерыкай. Менавіта з такой Еўропай Расія павінна будзе наладжваць свае адносіны, калі жадае пазбегнуць небяспечнай геапалітычнай ізаляцыі.

Несумненна, Расія для Амерыкі з'яўляецца занадта слабой, каб стаць партнёрам, і па-ранейшаму яшчэ моцнай, каб быць проста кліентам. Хутчэй за ўсё Расія стане для ўсіх сапраўднай праблемай, якая можа не ўзнікнуць, калі Амерыка будзе садзейнічаць развіццю сітуацыі, пры якой расіянаў здолеюць пераканаць, што адзіным выбарам для іх краіны з'яўляецца ўсё больш цесная арганічная сувязь з атлантычнай Еўропай. Хаця працяглы расійска-кітайскі ці расійска-іранскі саюз малаверагодны, важна, каб Амерыка пазбягала такой палітыкі, якая зможа перашкодзіць Расіі зрабіць правільны геапалітычны выбар. Адсюль вынікае, што амерыканская палітыка ў дачыненні да Кітая ды Ірана павінна па мажлівасці планавацца такім чынам, каб улічваўся як ўплыў на геапалітычныя разлікі Расіі. Падтрымка ілюзій наконт вялікіх геастратэгічных канцэпцыяў можа прывесці толькі да спазнення гістарычнага выбару, які Расія павінна зрабіць, каб пазбавіцца ад глыбокай немачы.

Расія зможа ўхваліць новую еўрапейскую рэчаіснасць, як эканамічную, так і геапалітычную і выйграць ад еўрапейскага супрацоўніцтва ў галіне гандлю, транспартных камунікацый, інвестыцый і асветы. Удзел Расіі ў Савеце Еўропы з'яўляецца, такім чынам, крокам у патрэбным накірунку, прадвесцем далейшых сувязяў, што маюць характар (прававых) інстытутаў, новай Расіі з Еўропай, якая увесь час пашыраецца. Гэта надае надзеі, бо калі Расія будзе і далей ісці такім шляхам, ёй застанецца толькі адна магчымасць: браць прыклад з Турцыі, якая пасля распаду Асманскай імперыі адмовілася ад сваіх імперскіх амбіцыяў і свядома абрала шлях мадэрнізацыі, еўрапеізацыі і дэмакратызацыі.

Хто яшчэ можа прапанаваць Расіі такія каштоўнасці, як не Еўропа, сучасная, багатая і дэмакратычная, звязаная з Амерыкай. Еўропа і Амерыка не ўяўляюць пагрозы для дэмакратычнай Расіі як нацыянальнай дзяржавы, што не выяўляе экспансіянісцкіх тэндэнцыяў. Еўропа і Амерыка не маюць ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій для Расіі ў адрозненне ад Кітая, які калі-небудзь можа іх мець; не маюць таксама агульнай небяспечнай мяжы, дзе магло б дайсці да крывавых канфліктаў, як у выпадку з мяжой, незразумелай з геаграфічнага і этнічнага пункту гледжання, паміж Расіяй і мусульманскімі краінамі на поўдні. Якраз наадварот, для Еўропы і Амерыкі дэмакратычная Расія як нацыянальная дзяржава, з'яўляецца геапалітычна пажаданай крыніцай стабілізацыі ў неспакойнай Еўразіі.

Для таго, каб супрацоўніцтва з Еўропай і Амерыкай змагло прынесці канкрэтную карысць, Расія павінна выканаць дзве складаныя умовы: па-першае, яна павінна рашуча адкінуць сваё імперскае мінулае, а па-другое, не рабіць спробаў падтачыць палітычныя і вайсковыя сувязі Еўропы з Амерыкай. Першая ўмова абазначае прыстасаванне да геапалітычнага плюралізму, які пачаў дамінаваць на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Гэтае прыстасаванне не выключае эканамічнага супрацоўніцтва, напрыклад, па ўзору Еўрапейскай зоны свабоднага гандлю, прычым суверэнітэт незалежных дзяржаваў аніякім чынам не павінен быць ушчэмлены, хаця б таму, што тыя дзяржавы гэтага проста не жадаюць. А самым галоўным павінна стаць дакладнае, недвухсэнсоўнае прызнанне Расіяй незалежнай Украіны, яе мяжаў і яе нацыянальнага самавызначэння.

Другая ўмова можа стаць яшчэ цяжэйшай. Сапраўднае супрацоўніцтва з атлантычнай садружнасцю не можа грунтавацца на такіх прынцыпах, пры якіх еўрапейскія дэмакратычныя дзяржавы, што жадаюць стаць яго членамі, могуць быць адсунуты з прычыны супрацьдзеяння Расіі. Пашырэнне атлантычнай садружнасці не можа быць надта хуткім і, вядома ж, не павінна ствараць уражання, што скіравана супраць Расіі; яно таксама не можа і не павінна стрымлівацца палітычнымі рашэннямі, якія адлюстроўваюць састарэлую канцэпцыю еўрапейскай бяспекі. Пашыраная дэмакратычная Еўропа павінна быць адкрытым гістарычным працэсам, а не вязнем самачынных геаграфічных абмежаванняў.

Выбар адзінай магчымасці можа яшчэ доўгі час заставацца для многіх расіянаў складанейшай праблемай. Гэта будзе вымагаць мабілізацыі велізарнай палітычнай волі і, мажліва, таленавітага правадыра, здольнага зрабіць выбар і прадбачыць вобраз нацыянальнай, дэмакратычнай, сапраўды сучаснай і еўрапейскай Расіі. Несумненна, працэс гэты не будзе хуткім. На пераадоленне посткамуністычнага і постімперскага крызісу спатрэбіцца яшчэ больш часу, чым было патрэбна краінам Цэнтральнай Еўропы, а таксама з'явіцца патрэба ў дальнабачным і стабільным палітычным кіраўніцтве. Сённяшняя сітуацыя ў Расіі сведчыць пра тое, што ў ёй няма асобы маштабу Атацюрка. Але некалі ж расіяне павінны зразумець, што прыняцце канцэпцыі Расіі як нацыянальнай дзяржавы з'яўляецца актам не капітуляцыі, а вызвалення. (Увесну 1996 года генерал А.Лебедзь апублікаваў артыкул «Заняпад імперыі альбо Адраджэнне Расіі»// **«Сегодня», 26 красавіка 1996 год**, дзе дадзеная праблема трактуецца такім жа чынам). Яны павінны будуць прыняць трапна сказаныя Б.Ельцыным у Кіеве ў 1990 годзе словы на тэму неімперскай будучыні Расіі. Бо, пазбавіўшыся ад імперскіх амбіцыяў, Расія на самой справе па-ранейшаму была б вялікай еўраазіяцкай краінай, самай вялікай па сваёй тэрыторыі дзяржавай.

Так ці інакш, новае ўсведамленне гістарычнага самавызначэння Расіі ды яе тэрытарыяльных межаў будзе адбывацца, мабыць, паступова; спатрэбіцца таксама мудрая і рашучая пазіцыя Захада. Амерыка і Еўропа павінны дапамагчы Расіі. Яны павінны прапанаваць ёй не толькі спецыяльную дамову ці карту ўзаемаразумення з NATO, але і агульную пабудову будучай еўраазіяцкай сістэмы бяспекі і супрацоўніцтва, якая выйдзе за межы свабоднай структуры Арганізацыі Бяспекі і Супрацоўніцтва ў Еўропе (АБСЕ). А калі Расія ўмацуе свае дэмакратычныя інстытуты і дасягне прыкметнага прагрэсу ў развіцці эканомікі, заснаванай на свабодным рынку, то нельга будзе выключыць і яе больш цесную сувязь з NATO і Еўрапейскім Саюзам.

Для Захада, і асабліва для Амерыкі, важным з'яўляецца таксама правядзенне палітыкі, якая дапаможа Расіі ўсвядоміць пастаўленую перад ёю дылему адзінай магчымасці. Палітычная і эканамічная стабілізацыя ў новых постсавецкіх дзяржавах - важны фактар, які падахвочвае Расію па-новаму ўразумець сваю гістарычную ролю. Таму падтрымка новых постсавецкіх дзяржаваў з мэтай узмацнення геапалітычнага плюралізму на тэрыторыі былой савецкай імперыі павінна стаць інтэгральнай часткай палітыкі, скіраванай на схіленне Расіі да рашучага выбару еўрапейскай канцэпцыі. Тры дзяржавы маюць асаблівае геапалітычнае значэнне: Азербайджан, Узбекістан і Украіна.

Незалежны Азербайджан можа стаць у Сярэдняй Азіі калідорам, які адчыніць Захаду доступ да басейна Каспійскага мора, багатага на энергетычныя рэсурсы. І наадварот, падпарадкаванне Азербайджана азначала б, што Сярэдняя Азія, ізаляваная ад знешняга свету, апынулася б пад яшчэ больш моцным націскам з боку Расіі, накіраваным на рэінтэграцыю. Адной з важных перашкодаў на шляху ўзнаўлення кантролю Расіі ў дадзеным рэгіёне з'яўляецца Узбекістан, найбольш дынамічная і найбольш населеная краіна ў гэтым рэгіёне. Незалежнасць гэтай краіны мае ключавое значэнне для выжывання іншых дзяржаваў Сярэдняй Азіі; Узбекістан, апрача таго, менш за ўсё адчувае на сабе расійскі націск.



Але галоўная роля ў гэтай трыядзе належыць Украіне. Пасля пашырэння Еўрапейскага Саюза і NATO яна павінна будзе вырашыць, ці ўвайсці ў склад якой-небудзь з гэтых арганізацый. Калі з'явіцца агульная з імі мяжа, і пасля таго, як яна правядзе ўнутраныя рэформы, неабходныя для атрымання членства, верагодней за ўсё яна вырашыць увайсці ў абедзве структуры. Хаця для гэтага спатрэбіцца шмат часу. Захад павінен ужо зараз, мацуючы свае сувязі з Кіевам у галіне эканомікі і бяспекі, назваць 2005-2015 гады разумным часовым перыядам для паступовага далучэння Украіны, што тым самым зменшыць асцярогі ўкраінцаў наконт таго, што Еўропа, якая ўсё больш пашыраецца, затрымаецца на польска-ўкраінскай мяжы.

Расія, застаючыся незадаволенай, верагодна, дасць згоду, каб у 1999 годзе NATO папоўнілася некалькімі краінамі Цэнтральнай Еўропы, бо пасля падзення камунізму сацыяльная і культурная бездань паміж Расіяй і Цэнтральнай Еўропай павялічылася. І наадварот, Расіі будзе непараўнальна цяжэй прыняць уваход у склад NATO Украіны, таму што ў такім выпадку ёй давядзецца пагадзіцца з тым, што будучыня Украіны не будзе ўжо арганічна паяднана з Расіяй. Калі ж Украіна хоча быць незалежнай дзяржавай, яна павінна стаць у большай ступені часткай Цэнтральнай Еўропы, чым Еўразіі, а калі павінна стаць часткай Цэнтральнай Еўропы, то павінна цалкам удзельнічаць у яе саюзах з NATO і Еўрапейскім Саюзам. Прыманне Расіяй дадзеных саюзаў магло б наблізіць той дзень, калі яна вырашыць стаць сапраўднай часткай Еўропы. Супрацьдзеянне Расіі было роўназначным адмове ад еўрапейскай канцэпцыі і выказваннем наконт адзінокага існавання і «еўраазіяцкага» самавызначэння.

Важнай праблемай, пра якую варта памятаць з'яўляецца тое, што Расія не можа належаць Еўропе, калі Еўропе не належыць Украіна. Украіна ж можа адносіцца да Еўропы нават калі да Еўропы не будзе адносіцца Расія. Калі выказаць меркаванне, што Расія вырашыць звязаць свой лёс з Еўропай, то ўключэнне Украіны ў еўрапейскія структуры - у інтарэсах Расіі. Па сутнасці сувязі Украіны з Еўропай могуць стаць зыходным пунктам для самой Расіі. Але гэта таксама азначае, што крытычны момант вызначэння Расіяй сваіх дачыненняў з Еўропай надыдзе толькі праз некаторы час. «Крытычны» ў тым сэнсе, што выбар Украінай еўрапейскай канцэпцыі пакладзе на лязо нажа вырашэнне праблемы пра наступную фазу гісторыі Расіі: альбо стаць часткай Еўропы, альбо застацца еўраазіяцкім ізгоем, не з'яўляючыся ні сапраўднай Еўропай, ні сапраўднай Азіяй, і трапляючы ў канфлікты з «блізкім замежжам».

Будзем спадзявацца, што супрацоўніцтва паміж Еўропай і Расіяй возьме пачатак з афіцыйных двухбаковых пагадненняў і паступова набудзе форму больш арганічных і цесных эканамічных, палітычных і вайсковых сувязяў. Такім чынам, на працягу першых двух дзесяцігоддзяў наступнага стагоддзя Расія магла б стаць інтэгральнай часткай Еўропы, якая ўключала б ў сябе не толькі Украіну, але і дасягала б Урала і нават яшчэ далей. Саюз Расіі з еўрапейскімі і атлантычнымі структурамі ці нават нейкая форма яе членства, праклалі б, у сваю чаргу, шлях да далучэння трох каўказскіх дзяржаваў: Грузіі, Арменіі і Азербайджана, якія так жадаюць паяднання з Еўропай.

Цяжка прадбачыць, наколькі хутка можа адбыцца гэты працэс, але ў адным мы ўпэўнены: ён паскорыцца, калі з'явяцца геапалітычныя ўмовы, што падштурхнуць Расію ў патрэбным накірунку і прадухіляць выяўленне іншых яе прэтэнзій. Чым хутчэй Расія будзе імкнуцца ў Еўропу, тым хутчэй «чорная дзірка» Еўразіі запоўніцца больш сучасным і дэмакратычным грамадствам. Дылема адзінай магчымасці, што стаіць перад Расіяй, з'яўляецца ўжо не толькі праблемай геапалітычнага выбару, але і праблемай прыняцця жыццёва важнага рашэння.

# Спекхарда зрабілі рэвізорам

**Вечарам 4 траўня пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард правёў у Менск у сваю першую прэс-канферэнцыю пасля амаль гадавой адсутнасці ў рэспубліцы, выкліканай канфліктам вакол яго рэзідэнцыі ў пасёлку Дразды.**

Першае назіранне, зробленае спадаром Спекхардам пасля вяртання,— тое, што эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршылася і эканамічныя праблемы сталі для шырокага абмеркавання не менш важнымі, чым палітычныя. Са шкадаваннем спадар Спекхард адзначыў, што на Беларусі не адбылося ніякіх зменаў у плане прымірэння паміж урадам і некаторымі іншымі палітычнымі сіламі. Адной з мэтаў свайго прыезду ў Менск пасол лічыць наданне новага імпульсу вырашэнню гэтага супрацьстаяння.

Каментуючы стаўленне афіцыйнага Вашынгтона да інтэграцыйных працэсаў паміж Расіяй і Белаsuccю, Д.Спекхард падкрэсліў: найбольш важны момант для ўрада ЗША ў інтэграцыі любых краін — тое, каб яна ажыццяўлялася на дэмакратычных прынцыпах. Для гэтага, лічыць пасол, Беларусь павінна напачатку стварыць дэмакратычныя ўмовы ўнутры краіны. У цэлым жа, паводле яго слоў, ЗША не баяцца больш цеснай інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй.

Спадар Спекхард назваў «блефам» заявы аб тым, што ядзерная зброя можа быць вернута на тэрыторыю Беларусі, і дадаў, што ЗША не ўспрымае іх усур'ёз. Міжнародная супольнасць, уключаючы Расію і ЗША, адзначыў ён, лічыць, што ініцыятыва Беларусі аб стварэнні без'ядзернай зоны ва Усходняй Еўропе і наданне краіне статусу без'ядзернай дзяржавы былі мудрымі крокамі, і беларускі ўрад зробіць памылку, калі адмовіцца ад гэтай палітыкі.

Спадар пасол таксама паведаміў, што 4 траўня ён сустрэўся з першым намеснікам міністра замежных справаў Беларусі Сяргеем Мартынавым. Бакі абмеркавалі стан адносінаў паміж Беларуссю і ЗША, сённяшнюю палітычную сітуацыю ў Беларусі, а таксама крызіс у Югаславіі. На думку Д.Спекхарда, адносіны паміж Беларуссю і ЗША не сталі горшымі з таго часу, як ён пакінуў яе. Ён лічыць гэта добрым знакам.

Што тычыцца Югаславіі, то, як адзначалася на сустрэчы Д.Спекхарда з С.Мартынавым, бакі лічаць урэгуляванне канфлікту ў гэтай краіне сваёй агульнай мэтай.

Напрыканцы гэтага тыдня амерыканскі пасол плануе абмеркаваць з кіраўніцтвам рэспублікі пытанне аб магчымым размяшчэнні сваёй новай рэзідэнцыі і кампенсацыях, якія беларускі ўрад павінен яму прадаставіць у сувязі з пераездам. Актыўныя перамовы адносна гэтага вяліся яшчэ да прыезду спадара Спекхарда ў Менск, і беларускі ўрад зрабіў некалькі прапаноў адносна новых месцаў пражывання амерыканскага пасла ў Беларусі.

Д.Спекхард паведаміў, што яшчэ не быў у Драздах з часу свайго ад'езду, але работнікі пасольства, якія заязджалі туды некалькі месяцаў таму, адзначылі, што маёмасць, якая знаходзіцца на тэрыторыі рэзідэнцыі, поўнасцю захаваная.

Выказваючы сваё стаўленне да маючых адбыцца выбараў прэзідэнта Беларусі, прызначаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання, пасол падкрэсліў, што ўрад ЗША разглядае гэтую кампанію як выказванне жадання беларускай апазіцыі ўмацаваць дэмакратычныя інстытуты ў краіне і распачаць актыўны дыялог з грамадскасцю. Спадар Спекхард спадзяецца, што беларускі ўрад выкарыстае гэтую магчымасць для ўсталявання канструктыўнага дыялогу з апазіцыяй.

Што тычыцца 20 ліпеня (калі, згодна з Канстытуцыяй 1994 года, прэзідэнт Беларусі становіцца нелегітымным), то, на думку пасла, яшчэ занадта рана прагназаваць рэакцыю міжнароднай супольнасці. Магчыма, на працягу таго часу, што застаўся да гэтай даты, афіцыйныя ўлады знойдуць шляхі для вырашэння шматлікіх пытанняў, якія так востра стаяць сёння, адзначыў пасол ЗША.



Дэніэл Спекхард

***

**Вяртанне ў Менск Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэніэла Спекхарда напярэдадні правядзення выбараў прэзідэнта Беларусі не выпадковае. Такое сцвярджэнне прагучала 4 траўня ў вячэрнім выпуску інфармацыйнай праграмы «Панарама» Беларускага тэлебачання, якое, як вядома, з'яўляецца выказнікам пункту погляду афіцыйнага Менска.**

Каментуючы прыезд амерыканскага пасла ў Менск, супрацоўнік «Агенцтва тэлевізійных навінаў» БТ Яўген Дзмітрыеў нагадаў, што на мінулым тыдні Д.Спекхард узяў удзел у слуханнях па сітуацыі ў Беларусі, што прайшлі ў Кангрэсе ЗША. «Звярніце ўвагу, што і слуханні ў Кангрэсе, і прыезд Спекхарда чамусьці мелі месца якраз перад 16 траўня, — падкрэсліў Я.Дзмітрыеў. — Іншымі словамі, Дзярждэпартамент ЗША вырашыў прыслаць нам свайго рэвізора, які мае намер, паводле яго слоў, падштурхнуць дыялог, які дазволіў бы нашай краіне «актыўна рухацца па шляху дэмакратыі і інтэграцыі ў еўрапейскую сям'ю дэмакратычных нацый. Аднак мы ўжо больш за месяц бачым, што ЗША і паслухмяная ім еўрапейская сям'я гэтак званых дэмакратычных нацый у асобе NATO робяць на зямлі Югаславіі. Калі амерыканскі шлях да дэмакратыі і інтэграцыі ляжыць праз бамбардзіроўкі і знішчэнне мірнага насельніцтва ў незалежнай еўрапейскай краіне, то няхай спадар Спекхард рухае што-небудзь лепш у сябе на радзіме. Мы не збіраемся вучыць спадара пасла і яго краіну, што рабіць ім з амерыканскай дыпламатыяй, каб больш вучні амерыканскіх школ не забівалі па некалькі дзесяткаў сваіх аднакласнікаў. Але няхай і яны не вучаць нас, па якой канстытуцыі нам жыць...».

**Вячаслаў Шэлягейка, Наталля Кулагіна**

# Курс даляра імкнецца ў космас?

**Чацвёрты тыдзень працягваецца рост курсу амерыканскага даляра да беларускага рубля на «чорным» рынку наяўнай валюты. 4 траўня курс куплі дасягнуў 415—420 тысяч рублёў (максімальны — 425 тысяч), продажу — 430—435 тысяч рублёў. Толькі за чатыры травеньскія дні сярэдні курс даляра павысіўся больш чым на тры працэнты.**

На думку банкаўскіх экспертаў, асноўнай прычынай росту курсу ў апошнія дзесяць дзён з'явілася двухразовае павышэнне памеру мінімальнай зарплаты і, як вынік, — тарыфных ставак для работнікаў бюджэтнай сферы, а таксама розных сацыяльных выплат. Адначасова яны мяркуюць, што на сёння курсы дасягнулі сваёй найбольшай вышыні і, хутчэй за ўсё, напярэдадні Дня Перамогі крыху знізяцца. Іх рост грунтаваўся большай часткай на інфармацыі аб павышэнні МЗП, а не на рэальна выкінутай на рынак грашовай масе: гэта адбудзецца пазней, у другой дэкадзе траўня.

З пачатку месяца, пасля заканчэння перыяду падатковых адлічэнняў у бюджэт, пачаў узрастаць і курс даляра да безнаяўнага беларускага рубля на пазабіржавым рынку. За чатыры дні ён павялічыўся амаль на шэсць працэнтаў і дасягнуў 510—525 тысяч рублёў.

Эксперты разглядаюць два варыянты развіцця падзей на валютным рынку краіны: адначасовы скачок наяўнага і безнаяўнага курсаў, альбо скачок наяўнага курсу да ўзроўню безнаяўнага з магчымым яго перавышэннем. Паводле словаў экспертаў, усё залежыць ад аб'ёму рублёвай масы, якая выкінецца на наяўны рынак, магчымасцяў яе таварнага пакрыцця з боку арганізаванага гандлю, аб'ёму безнаяўных рублёвых рэсурсаў на пазабіржавым рынку, а таксама настрояў апаратараў гэтага рынку.

Адзін з экспертаў выказаў меркаванне, што да канца траўня рыначкавы наяўны курс лёгка пераадолее адзнаку 500, а безнаяўны — 600 тысяч рублёў. Тым часам у абменных пунктах камерцыйных банкаў ужо другі месяц даляр ЗША купляюць па 290—300 і прадаюць па 300 тысяч рублёў. Розніца паміж «чорным» і банкаўскім сярэднімі курсамі ўжо перавысіла 40 працэнтаў. Напачатку гэтага года яна складала 10 працэнтаў.

**Дзмітрый Уласаў**

**На 5 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют. Даляр ЗША — 245.000 беларускіх рублёў. Еўра — 259.038,50. Нямецкая марка — 132.444,28. Расійскі рубель — 10.140. У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра не змяніўся. На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 4 траўня даляр куплялі па 410.000—415.000 і прадавалі па 425.000—430.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём, курс не змяніўся.**

# З Гродна ў Беласток праз Менск

**Беларускія прадпрыемствы і фірмы запрошаны ўдзельнічаць у «Падляскіх днях эканомікі-99», якія пройдуць 17—19 чэрвеня ў Беластоку (Польшча). Калектыўным арганізатарам паездкі беларускіх прадпрыемстваў у Польшчу выступае Менскае аддзяленне Беларускай гандлёва-прамысловай палаты.**

Мэтай маючага адбыцца эканамічнага форуму з'яўляецца абмен дзелавымі прапановамі паміж прадпрымальнікамі Польшчы і краін СНД па пытаннях стварэння сумесных прадпрыемстваў і прыцягнення інвестыцый.

# Палятаем?

**Кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рэспублікі Беларусь мае намер пачаць рэалізацыю праграмы развіцця авіяцыйных перавозак з выкарыстаннем абласных аэрапортаў краіны, якая прадугледжвае аднаўленне паветраных зносінаў паміж сталіцай і абласнымі цэнтрамі рэспублікі.**

У адпаведнасці з праграмай, сёлета, да канца другога квартала, плануецца арганізаваць рэгулярныя палёты па маршрутах «Менск—Віцебск—Масква», «Гомель—Менск—Гродна» і «Магілёў—Менск—Брэст», якія будуць выконвацца сіламі беларускіх авіякампаній «Белавія», «Гомельавія», «Магілёўавія» і «ТэхАвіяСэрвіс».

**Ірына Сазановіч**

# Перарэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў і партыяў па-лукашэнкаўску - гвалт над Канстытуцыяй!

Грамадскае аб'яднанне «Незалежнае таварыства прававых даследаванняў», маючы на мэце садзеянне фармаванню прававога грамадства і павышэнню прававой культуры грамадзян у Рэспубліцы Беларусь

**Выказвае пратэст**

у сувязі з прававой сітуацыяй і правакарыстальнай практыкай, якая склалася ў Рэспубліцы Беларусь пасля выхаду Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N2, якая выяўляецца ў грубым парушэнні канстытуцыйнага права на аб'яднанне.

**Заклікае грамадскія аб'яднанні рэспублікі**

- у працэсе перарэгістрацыі кіравацца толькі патрабаваннямі нарматыўных актаў, не дапускаючы навязвання патрабаванняў, якія не маюць нарматыўнага характару;
- ініцыяваць судовыя разбіральніцтвы па фактах парушэння законных правоў і інтарэсаў арганізацый у працэсе перарэгістрацыі і рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў;
- ініцыяваць разгляд скаргаў на неправамерныя дзеянні органаў дзяржаўнага кіравання і службовых асобаў, у выніку якіх грамадзяне незаконна пазбаўлены магчымасці поўнасцю ці часткова здзяйсняць права на аб'яднанне, якое прадастаўлена ім законам альбо іншымі нарматыўнымі актамі.

**Заклікае юрыстаў рэспублікі**

аказаць прафесійную дапамогу ўсім грамадскім аб'яднанням рэспублікі і ініцыятыўным групам грамадзян у абароне іх законных правоў ды інтарэсаў у працэсе стварэння і перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў.

**Заклікае міжнародную супольнасць, міжнародныя недзяржаўныя арганізацыі**

даць ацэнку сітуацыі, якая склалася ў Рэспубліцы Беларусь у выніку прыняцця Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N2 і выкарыстаць усе магчымыя механізмы для аднаўлення прававой сітуацыі па рэалізацыі права на аб'яднанне.

**Заклікае Генеральнага пракурора**

забяспечыць дакладнае і аднастайнае выкананне законаў ды іншых нарматыўных актаў дзяржаўнымі органамі, што маюць дачыненне да працэсу перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў.

**Заклікае палату прадстаўнікоў РБ, Вярхоўны Суд РБ, Вышэйшы Гаспадарчы Суд РБ, Савет Міністраў РБ**

скарыстацца канстытуцыйным правам і звярнуцца ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь з прапановай аб разглядзе Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N2 на адпаведнасць Канстытуцыі і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь.

**Ацэнка**

Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N2 ад 26 студзеня 1999 года «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці палітычных партый, прафесіянальных саюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў».

Дадзены дакумент дае ацэнку палажэнняў Дэкрэта, рэгулюючых дзейнасць юрыдычных асобаў, створаных на падставе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх аб'яднаннях» (ад 4 кастрычніка 1994 года N3254-XII, з дапаўненнем, унесеным Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 студзеня 1995 года N3560-XII, ды аб'яднанняў, якія не маюць статуса юрыдычнай асобы і дзейнічаюць на падставе арт.36 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Гэты дакумент падрыхтаваны зыходзячы з аналізу трох асноўных дакументаў - Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах ад 16 снежня 1966 года, Канвенцыі Садружнасці Незалежных Дзяржаваў аб правах і асноўных свабодах чалавека ад 25 траўня 1995 года, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі ад 24.11.1996 года) і засяроджаны на пытанні заканадаўчага забеспячэння права на свабоду аб'яднанняў (асацыяцый).

Палажэнні Дэкрэта не адпавядаюць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а менавіта артыкулу восьмаму, у частцы прызнання Рэспублікай Беларусь прыярытэту агульнапрынятых прынцыпаў міжнароднага права і забеспячэння адпаведнасці ім нацыянальнага заканадаўства; а таксама артыкулу 36, у частцы забеспячэння права кожнага на свабоду аб'яднанняў, бо ўводзяць у сістэму нацыянальнага заканадаўства:

- прынцып дазволу на стварэнне грамадскага аб'яднання замест рэгістрацыйнага, што існаваў раней;
- немагчымасць судовага абскарджання рашэння Рэспубліканскай камісіі па рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў;
- забарону на дзейнасць асацыяцый (аб'яднанняў), якія не маюць статуса юрыдычнай асобы.

Мы лічым, што вышэйназваныя палажэнні Дэкрэта з'яўляюцца парушэннямі міжнародных прынцыпаў і канстытуцыйнага права на свабоду аб'яднанняў, а таксама з'яўляюцца заканадаўчай перашкодай для стварэння і развіцця незалежнага (недзяржаўнага), жыццядзейнага сектару грамадзянскіх ініцыятываў. На нашу думку, палажэнні Дэкрэта не могуць быць прызнаныя заканадаўчымі абмежаваннямі, якія неабходны ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, грамадскага парадку.

Тэкст гэтага пратэсту атрымалі:

Прэзідэнт РБ - Адміністрацыя: 220016, г.Менск, вул. К.Маркса, 38; Палата Прадстаўнікоў РБ: 220050, г.Менск, пл. Незалежнасці, (Дом Урада); Савкет Рэспублікі РБ: 220030, г.Менск, вул. Чырвонаармейская, 4; Вярхоўны Суд РБ: 220033, г.Менск, вул. Леніна, 28; Вышэйшы Гаспадарчы Суд РБ: 220050, г.Менск, вул. Валадарскага, 8; Савет Міністраў РБ: 220010, г.Менск, вул. Савецкая, 11 (Дом Урада); Пракуратура РБ: 220050, г.Менск, вул. Інтэрнацыянальная, 22.

